**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№37(701) 12 верасня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Велічны касцёл Імя Панны Марыі ў Параф'янаве.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

Працяг тэмы на стар. 4



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ **№166**

Шаркоўшчынскі раён

# Не за гарамі пераход на “лічбу”

■ Чэслаў Якубовіч

**Услед за іншымі дзяржавамі еўрапейскага кантынента і Беларусь не можа быць у баку ад тэхнічнага прагрэсу ў сферы тэлебачання і радыёвяшчання.**

Па распрацаванай дзяржаўнай праграме ўжо меней чым праз 7 месяцаў першым на Віцебшчыне поўнасцю пяройдзе на эфірнае лічбавае вяшчанне Шаркоўшчынскі раён. Там каля райцэнтра працуе радыётэлевізійная перадаючая станцыя з радыусам зоны абслугоўвання 23 кіламетры. Яе аналагавы перадатчык будзе адключаны 1 красавіка 2015 года і адбудзецца пераход на лічбавае тэлевізійнае вяшчанне палепшанай у некалькі разоў якасці адлюстравання на экране і гуку. Праўда, і дагэтуль адтуль ішло з прымяннннем кадзіроўкі вяшчанне ў лічбавым фармаце бясплатнага сацыяльнага пакета з 8-мі тэлепраграм: Беларусь 1, Беларусь 2, Беларусь 3, АНТ, СТБ, НТБ-Беларусь, РТР-Беларусь, МІР і адной радыёпраграмы Першага канала Беларускага радыё. А вось насельніцтву гэтай мясцовасці і суседзям ужо зараз трэба думаць аб набыцці альбо сучасных лічбавых тэлевізараў, альбо лічбавых прыставак да старых тэлевізараў. Для аддаленых ад перадатчыка вёсак спатрэбіцца і ўстаноўка наружнай дэцыметровай антэны на пэўнай вышыні ў залежнасці ад рэльефу мясцовасці. Услед за Шаркоўшчынай затым пярэйдуць на “лічбу” перадаючыя станцыі ў Віцебску, Аршанскім раёне і Лёзна. Іх намечана аснасціць яшчэ двума перадатчыкамі па 18 каналаў кожны, але за іх трэба будзе плаціць абанентную плату.

У бліжэйшыя час па вобласці будзе адключана і праводнае радыёвяшчанне, а насельніцтву для праслухоўвання любімых радыёпраграм трэба будзе набыць прыёмнікі УКВ альбо FM-дыяпазону.

Пастаўскі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Станіслаў Раманчук

**Сёлета большасць айчынных вытворцаў вымушаны вырашаць складаныя задачы свайго тэхпераўзбраення і адначасова вытрымліваць канкурэнцыю на рынку.**

З гэтай праблемай сутыкнуўся і калектыў дрэваапрацоўчага прадпрыемства “Паставымэбля”, у якога значны аб’ём вытворчасці складае выпуск яшчэ з савецкіх часоў школьнай мэблі і вучэбнага абсталявання. Але калі раней пастаўчане былі яўнымі манапалістамі на гэтым рынку, то зараз ім прыходзіцца толькі ўнутры Беларусі канкурыраваць на гэтым рынку яшчэ з 15 аналагічнымі фірмамі, большасць з якіх невялікія прыватныя. Аднак і ў Паставах яшчэ некалькі гадоў назад пачалі мадэрнізацыю сваёй вытворчасці, сталі манціраваць імпартныя станкі з лічбавым праграмным кіраваннем для вырабу мэблі. Замянілі на прадпрыемстве і сушыльную энергазберагальную гаспадарку, абнавілі сістэму вентыляцыі. На чарзе і замена стужачнай піларамы на новую з камп’ютарнай сістэмай кіравання працэсамі. Такое тэхнічнае абнаўленне плюс зладжаная праца службы маркетынгу і дызайну прынесла свой плён. Да гэтага года “Паставымэбля” акрамя беларускіх школ і дзіцячых садкоў адгружала такую мэблю яшчэ і спажыўцам у Расіі, Казахстане і Латвіі. Сёлета пакет аналагічных заказаў пастаўчан дапоўніла і суседняя Літва. Спачатку адна з літоўскіх фірм зрабіла некалькі пробных закупак школьнай мэблі, а калі яны спадабаліся, то паступіў і буйны заказ. Як і раней, прадпрыемства пастаралася выканаць усе пажаданні літоўцаў і разлічвае трывала замацавацца на прыбалтыйскім рынку мэблі і абсталявання для школьнікаў.

Верхнядзвінскі раён

# Паблукаў па лесе

■ Кастусь Александровіч

**Штогод летам тысячы суайчыннікаў адпраўляюцца ў лясныя масівы, каб назапасіць там дароў прыроды на зіму, нарыхтаваць венічкаў для лазні.**

Аднак час ад часу здараецца, што людзі там губляюць у гушчары арыентыроўку і міжволі становяцца леснымі рабінзонамі, калі заблудзяцца. Вось і днямі двое жыхароў Верхнядзвінска пенсійнага ўзросту паехалі ў лес па грыбы. Надвор’е ў той дзень стаяла добрае, мужчыны заняліся ціхім паляваннем да самага вечара. Спачатку яны выходзілі на сувязь адзін да другога, дзяліся ўражаннямі, а потым іх шляхі-дарогі разышліся. Пазней яшчэ і сонца схавалася за воблакі, арыентавацца ў лесе стала вельмі складана. У выніку пад вечар адшукаў дарогу назад і вярнуўся дамоў толькі адзін з грыбнікоў. Устрывожаныя родныя зніклага пенсіянера адразу звярнуліся за дапамогай у міліцыю, а потым было вырашана падключыць да пошукаў гараджаніна яшчэ і пагранічнікаў. Намаганні пошукавых груп далі свой вынік толькі на наступны дзень. Знайшла зніклага ў лесе мужчыну службовая аўчарка па мянушцы Іраклі. На шчасце, 64-гадовы грыбнік спакойна перажыў свае прыгоды і праведзеную ноч, якая не выдалася халоднай, у лясным масіве. Пенсіянеру не спатрэбілася і дапамога медыкаў, ён выглядаў крыху змучаным, але адчуваў сябе добра. Дарэчы, нават самы спрактыкаваны чалавек павінен быць асцярожным падчас паходу ў лес, асабліва калі мясцовасць слаба вядомая і надвор’е не вельмі спрыяльнае для паходу ў лес.

# Аб самым надзёненым

## ДЗЯРЖАВА ЎКЛАЛА Ў СПОРТ ВЕЛІЗАРНЫЯ СРОДКІ, АДНАК ВЫНІКІ ВЫСТУПЛЕННЯЎ БЕЛАРУСКІХ АТЛЕТАЎ І КАМАНД ЖУДАСНЫЯ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Усё гэта – даўнія глыбінныя праблемы краіны, дзе здаровы лад жыцця вядуць нямногія, адсюль і правальныя вынікі, калі нашы атлеты толькі статысты, займаюць 21-е і 41-е месца на чэмпіянатах свету і Еўропы.**

Усё меней і меней часу засталося да правядзення гульняў чарговай зімовай Алімпіяды-2014 у Сочы. Аднак на каго з беларусаў там можна будзе паглядзець з надзеяй на пападанне на п’едэстал гонару, дык гэта на адну хіба біятлапістку Дар’ю Домрачаву. Але навасепчаны кіраўнік Мінспорту і турызму Беларусі, дагэтуль пажарны генерал Аляксандр Шамко не губляе аптымізму і гаворыць, што беларусы павінны там браць нават 5 медалёў. Дасведчаныя спецыялісты з гэтай нагоды толькі крыва ўсміхаюцца, паколькі такія заявы - гэта блеф, альбо словы дылетанта.

Між тым на нядаўняй нарадзе па праблемах айчыннага фізкультурна-спартыўнага таварыства “Дынама” беларускі прэзідэнт папярэдзіў гэтага міністра і ягоных сяброў па тройцы ( у гэту кагорту кіраўнікоў галіны ўваходзіць яшчэ І-ы віцэ-прэзідэнт НАКа і памочнік прэзідэнта па пытаннях фізкультуры, спорту і развіцця турызму ), што пасля зімовых Алімпійскіх гульняў яны ўжо будуць адказваць “на ўсю катушку”. Можна толькі здагадвацца, што цяпер на душы ў гэтых упраўленцаў, паколькі спартыўная галіна ў Беларусі ў развале. Нікуды не падзецца ад горкага факту, бо сёлета нашы мацнейшыя спартсмены з завяршыўшыхся 15 чэмпіянатаў свету ( 7 зімовых і 8 па летніх відах спорту) прывезлі дамоў толькі адзін залаты медаль.

Дарэчы, гэта не дрэнны збег абставін, як здараецца ў спорце, а заканамернасць, да чаго мы самі прыйшлі. Не сакрэт, апошнім часам у развіцці гэтай галіны не было патрэбнай сістэмы. Львіныя грошы (да 85 % ) укладваліся ў адзін від – абласканы хакей, панабудавалі некалькі дзясяткаў Лядовых палацаў нават у глыбінцы. А ў выніку на апошніх чэмпіянатах свету хакейная зборная Беларусі ў ліку аўтсайдараў, займае перадапошнія месцы. Яна не прабілася на хакейны турнір Алімпіяды ў Сочы і на чале зноў з канадскім трэнерам Гленам Хенланам можа асароміцца і на дамашнім чэмпіянаце свету ў Мінску і ўвогуле вылецець з эліты.

Таксама лепшы наш хакейны клуб, мінскае “Дынама” з такім падборам ігракоў, як сёлета, хутчэй усяго, будзе ў ліку слабейшых у КХЛ. Не радуюць даўно і нашы юніёрскія, маладзёжныя хакейныя каманды, не могуць вярнуцца ў лік сусветных лідараў. І ўвогуле навошта нашай даволі беднай краіне развіваць той жа хакей, калі адзін дзень утрымання самай просценькай хакейнай пляцоўкі патрабуе 8 млн. рублёў. Вось куды траціцца асноўныя шалёныя грошы, калі быць шчырымі. Зараз прадстаўнікі іншых відаў спорту, футбалісты, валейбалісты, гімнасты, барцы, лёгкаатлеты і многія іншыя маюць далёка не тое забеспячэнне і фінансаванне, як хакеісты.

Па-ранейшаму ў нас жабрацкае існаванне вядуць многія ДЮСШ, дзіцячыя трэнеры атрымоўваюць малыя заробкі і ў гэтай прафесіі застаюцца хіба што фанаты сваёй справы. А матэрыяльная база для заняткаў спортам юным талентам нават у сталіцы вартая жалю, не кажучы ўжо пра правінцыю. Усё гэта – даўнія глыбінныя праблемы краіны, дзе здаровы лад жыцця вядуць нямногія, адсюль і правальныя вынікі, калі нашы атлеты толькі статысты, займаюць 21-е і 41-е месца на чэмпіянатах свету і Еўропы.

Цікава, што размову пра незайздроснае становішча ў беларускім спорце вялі на вышэйшым узроўні і восенню 2011 года, калі праходзіла адпаведная нарада на чале з А. Лукашэнкам па пытаннях аказання падтрымкі арганізацыям фізічнай культуры і спорту. Яшчэ тады кіраўнік дзяржавы сцвярджаў, што грошы на спорт у Беларусі заўсёды знойдуць, але заробкі спартсменаў павінны залежыць ад іх паказаных вынікаў.

Падобна на тое, што цяпер ад слоў пярэйдуць да спраў, а многім майстрам знімуць ранейшыя стыпендыі і пераводзяць на звычайныя заробкі простых беларусаў. Існуе, праўда, толькі небяспека, што многія нашы спартсмены і трэнеры, уключаючы маладых талентаў, могуць памяняць спартыўнае грамадзянства ў такой сітуацыі і паедуць туды, дзе ім будуць плаціць за падрыхтоўку да адказных спаборніцтваў значна большыя грошы, чым у нас.

Але гэта толькі адзін бок медаля і можна пагадзіцца з беларускім даўнім лідарам, што праблем, недапрацовак і цяжкасцей у гэтай галіне хапае і прыбаўляецца. А вось адсутнічае адно цярпенне, бо хочацца як мага хутчэй гучна заявіць пра сябе. Таму на апошняй нарадзе той жа міністр спорту, перабіраючы лісткі паперак, дзіўна запэўнівае краіну, што да канца года нацыянальныя нашы каманды на 12 застаўшыхся чэмпіянатах свету завяюць нават 15-17 медалёў. Калгасная практыка планавання і тут дае аб сабе ведаць.

Трэба нам усім глядзець праўдзе ў вочы – ніякая мы не моцная спартыўная дзяржава, а проста адна з многіх у Еўропе і свеце і паступова губляем сваю канкурэнтназдольнасць на спартыўных арэнах, як і нашы тавары слаба раскупляюцца. З іншага боку – гэта правільна плаціць добра за высокія дасягненні. Але ж не ўсё вымяраецца ў спорце аднымі грашыма, найперш нацыя павінна быць здаровай, у кожным горадзе, двары, вялікай вёсцы павінны з’явіцца ўтульныя сучасныя стадыёны, спартыўныя залы, плавальныя басейны, куды б дзеці і дарослыя ішлі б з задавальненнем умацоўваць здароўе, былі моцнымі, хуткімі, атлетычнымі. Вось у такім выпадку часцей беларускі сцяг і гімн загучыць на спаборніцтвах высокага рангу, а нашы каманды і атлеты рэгулярна прадоўжаць радаваць сваімі дасягненнямі. А пакуль сёння, на жаль, прозвішчы такіх можна пералічыць на пальцах адной рукі…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 12.09.13 | | | | Пятніца 13.09.13 | | | | Субота 14.09.13 | | | | Нядзеля 15.09.13 | | | | Пнд.16.09.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +14 | +19 | +15 | +12 | +15 | +19 | +15 | +13 | +15 | +17 | +15 | +12 | +13 | +17 | +12 | +9 | +12 | +17 |
| Ціск | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 746 |
| Вільготнасць | 98 | 93 | 65 | 89 | 94 | 89 | 72 | 96 | 99 | 100 | 78 | 88 | 89 | 83 | 52 | 73 | 82 | 78 | 47 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд-У | 4 У | 7 Пд-У | 4 Пд-У | 5 У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 7 Пд-У | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 7 Пд |

## Дзень за днём

**У І-м паўгоддзі страты беларускіх прадпрыемстваў выраслі ў 2 разы і склалі 3,7 трлн. рублёў, у ліпені і жніўні прадоўжылася падзенне прамысловай вытворчасці. Ва ўрадзе прапанавалі рэзка павялічыць акцызы на паліва для аўтамабіляў, каб вырашыць бюджэтныя праблемы. Для ўсіх рэгіёнаў Беларусі вызначылі адзіны тэрмін пачатку выплат пенсій і дапамог з 5-га числа штомесяц, пачынаючы з лістапада сёлета. Для замацавання на вёсцы маладых беларускіх спецыялістаў стануць заваблiваць даплатамі. На працягу 10 дзён ДАІ праводзіла ў краіне спецыяльную прафілактычную акцыю "Увага – дзеці!".**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** Падчас надзвычайнага становішча па краіне затрымалі сотні актывістаў руху "Браты-мусульмане" на чале з іх духоўным лідарам Мухамедам Бадзі; быў забіты яго сын.

**Сірыя.** Улады краіны нарэшце згадзіліся пусціць у зону канфлікту экспертаў ААН, каб праверыць абвінавачванні ў прымяненні рэжымам Башара Асада хімічнай зброі.

**ЗША.** Заснавальнік сацыяльнай сеткі Facebook Марк Цукерберг вырашыў зрабіць яе яшчэ і сусветнай плацежнай сістэмай з дапамогай спецыяльных мабільных дадаткаў смартфона.

**Пакістан.** Суд прад'явіў абвінавачванні былому прэзідэнту Первезу Мушарафу, што ён не забяспечыў належнай аховы экспрэм'еру Беназір Бхутта, якую забілі на мітынгу.

**Расія.** Група расійскіх акцыянераў ААТ "Сукно" абараніць свае інтарэсы ў Беларусі вырашыла ў міжнародным судзе, яны таксама звернуцца да кіраўніцтва РФ па дапамогу.

**Літва.** Урад краіны з-за афрыканскай чумы свіней у РБ увёў на граніцы з Беларуссю платную дэзінфекцыю ўсіх грузавых аўтамабіляў у памеры 27 літаў (каля 7 еўра).

**Ізраіль.** Пасля другога раунда палесціна-ізраільскіх перамоў у Іерусаліме за зачыненымі дзвярыма абодва бакі дамовіліся прадоўжыць новы дыялог у бліжэйшы час.

**КНДР.** Некалькі карэйцаў, якія ўцяклі адтуль, расказалі спецкамісіі ААН пра жудасныя парадкі ў турмах і працоўных лагерах, дзе пакутуюць да 200 тысяч нязгодных з рэжымам.

**Індыя.** Раніцай каля станцыі ў горадзе Дхамар ў натоўп паломнікаў, якія накіроўваліся ў індуісцкі храм, урэзаўся на хуткасці цягнік, загінула 37 і каля 40 чалавек былі паранены.

**Японія.** Адзін з буйнейшых вытворцаў фотатэхнікі ў свеце Nikon сутыкнуўся з падзеннем прадаж камер, яго на рынку сталі выцясняць вытворцы смартфонаў з фотакамерамі.

**Індыя.** Вучоныя краіны рыхтуюцца да адкрыцця ў Беларусі сумеснага цэнтра і навукова-даследчай лабараторыі ў Мінску па даследаванні лазерных, нана- і біятэхналогій.

**Англія.** На працы памёр у душу адператамлення 21-гадовы студэнт немец, стажор Bank of America пасля таго, як адпрацаваў без перапынку 72 гадзіны запар.

**Канада.** У нумары матэля роднага горада Уэйна Грэцкі знайшлі 40 змей, раней у суседнім штаце буйны пітон вылез з клеткі і задушыў двух малых братоў у іх спальні.

**Куба.** Адзін з мацнейшых бар'ерыстаў свету кубінец Арланда Артэга стаў палітэмігрантам і ўцёк са сваёй каманды падчас чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы ў Маскве.

**Расія.** У трох рэгіёнах на Далёкім Усходзе маштабы моцнай паводкі расцягнуліся амаль на 4 тысячы км у даўжыню, было падтоплена каля 150 населеных пунктаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Глава МЗС Літвы Л. Лінкявічус параўнаў з шоу праведзеныя тут грамадскія слуханні пра бяспеку будучай Беларускай АЭС, якая ўзводзіцца ў 50 км ад Вільнюса.

**Бабруйск.** Як заявіў прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч, мадэрнізацыя вытворчасці ААТ "Белшына" непазбежна выкліча скарачэнне там колькасці працуючых на трэць.

**Салігорск.** Калектыў "Беларуськалія" ўстрывожыла, што экспартнёр "Уралкалій" аб'явіў аб рэзкім павелічэнні паставак калію ў Кітай, Індыю і Бразілію, каб апярэдзіць канкурэнта

**Барысаў.** Па краіне стала пашырацца кампанія, каб КДБ праінфармаваў грамадскасць, за што быў затрыманы мясцовы ксёндз Уладзіслаў Лазар і якія супраць яго абвінавачванні.

**Берастаўіца.** Большасць дольшчыкаў пакінулі ЖБК № 15, калі кошт 1 кв. метра жылля перавысіў 8 млн., плаціць штомесяц больш 7 млн. рублёў цяжка маладым сем'ям.

**Шклоў.** У мясцовай сельгасакадэміі недабор студэнтаў платнікаў склаў 89 % пры нізкіх расцэнках за вучобу, тут недабралі 255 першакурснікаў і на бюджэтныя месцы навучання.

**Любань.** Значна раней у раёне пачалі ўборку кукурузы, тут і ў Старадарожскім, Салігорскім раёнах 2 месяцы не было дажджоў і выгарэла болей 20 % палёў з кукурузай.

**Быхаў.** Да Дня беларускага пісьменства правялі гашэнне спецыяльнай паштовай маркі з гербам горада на канверце, яшчэ адна з гэтай серыі выйдзе з гербам Жлобіна да Дажынак.

**Мінск.** Пасля месяца агульнавайсковай падрыхтоўкі 356 юнакоў прынялі прысягу і атрымалі пагоны курсантаў 1-га курса Ваеннай акадэміі, 43 паехалі ў ваенныя ВНУ Расіі.

**Камянец.** Пажар знішчыў у мястэчку Волчын вадзяны млын на рацэ Пульва 1890 года пабудовы, ён працаваў 95 год і быў цікавы для турыстаў, так як гэты горад - радзіма караля С. Панятоўскага.

**Светлагорск.** Міліцыя забрала камп'ютар у мясцовага блогера Генадзя Жулегі, які зняў ролік пра шыкоўны катэдж старшыні райвыканкама і выклаў відэа ў сацыяльных сетках.

**Лунінец.** На падпітку 38-гадовая жыхарка раёна і трое яе маладых сабутэльнікаў падчас сваркі ў яе доме збілі нагамі і рукамі да смерці 34-гадовага сужыцеля гаспадыні.

**Мінск.** Пасля правалу на сусветным першынстве ў Маскве НАДА Беларусі на 2 гады дыскваліфікавала адразу траіх маладых беларускіх лёгкаатлетаў за ўжыванне допінгу.

**Жабінка.** Гуртпакінутых без нагляду авечак ля вёскі Мацеевічы трапіў пад пасажырскі поезд Масква-Парыж, пры сутыкненні загінулі 8 жывёлін, затрымка руху склала 40 хвілін.

**Мінск.** На мяжы закрыцця апынулася лепшая жаночая хакейная каманда Беларусі "Пантэра", бо ёй адмовіў у дапамозе асноўны спонсар "Трайпл" і ўсе дзяржаўныя ргаізацыі.

# Мінімальны стаж для атрымання працоўнай пенсіі павялічаны ўдвая



■ FINANCE.TUT.BY

**Дзяржава працягвае аптымізаваць выдаткі на сацыяльную сферу. Спачатку пастановай Саўміна работнікам былі ўрэзаныя бальнічныя. Цяпер Указам прэзідэнта павялічаны мінімальны стаж для атрымання працоўнай пенсіі.**

Так, з наступнага года , каб зарабіць працоўную пенсію па ўзросце , трэба будзе плаціць абавязковыя страхавыя ўзносы не менш за 10 гадоў. Паказчык павялічаны ўдвая: сёння для гэтага дастаткова прапрацаваць і 5 гадоў.

«Рэалізацыя дадзенай меры будзе садзейнічаць легалізацыі занятасці на рынку працы , абмежавання ўтрыманскіх памкненняў», – кажуць у Міністэрстве працы.

Прыгэтым новаўвядзенне не закране работнікаў, якія збіраюцца на пенсію ў бліжэйшы час і маюць « важкі савецкі стаж». Адпаведна, і пераліку ўжо прызначаных пенсій быць не павінна.

«Сёння на пенсію па ўзросце выходзяць асобы, якія пачалі працаваць яшчэ ў савецкія часы і фактычна адпрацавалі неабходны стаж яшчэ да распаду Савецкага Саюза, - пракаментавала дакумент міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна. - Мера адрасавана больш маладым работнікам. Яна загадзя нацэльвае на неабходнасць больш працяглага фарміравання сваіх пенсійных правоў».

На 1 верасня сярэдняя працоўная пенсія ў Беларусі склала 2.182.782 рубля, мінімальная - крыху больш за 1,5 мільёна. А тым, хто ўносіў узносы ў Фонд сацыяльнай абароны менш 5 гадоў (менавіта гэты паказчык з 1 студзеня будзе павялічаны ўдвая), дзяржава выплаціла ўсяго па 513000 рублёў.

У Міністэрстве працы адзначаюць, што для сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва захаваюцца ранейшыя ўмовы па мінімальным стажу. Для атрымання працоўнай пенсіі пяці гадоў працы будзе дастаткова інвалідам з дзяцінства і іх бацькам, інвалідам вайны, а таксама шматдзетным маці.

Акрамя таго, не змяняцца прынцыпы прызначэння пенсій па інваліднасці і па прычыне страты карміцеля.

Аўтары дакумента запэўніваюць, што сёння ва ўсім свеце назіраецца тэндэнцыя да павелічэння мінімальнага стажу для атрымання права на працоўную пенсію.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Дывановы камбінат асвоіў выпуск прадукцыі эканом-класа з тафцінга: дывановых пакрыццёў і тканых дываноў, на іх ёсць попыт, аб'ёмы вышэй, чым пры СССР.

**Дуброўна.** На мясцовым льнозаводзе пачалі замену яшчэ адной лініі па вытворчасці кароткага валакна на сучасную высокапрадукцыйную бельгійскую фірмы "Дэпортэтэ".

**Орша.** На базе авіярамонтнага завода зарэгістравалі новую авіякампанію "Орша эйр", яна збіраецца з новага года заняцца перавозкай грузаў з дапамогай верталётаў.

**Віцебск.** Адным з першых у краіне мясцовы мясакамбінат пачаў выпускаць прадукцыю, якая не змяшчае мяса свініны ў адпаведнасці з мусульманскімі законамі і традыцыямі.

**Полацк.** На пчолапасеках у 6 гаспадарках раёна адкачалі летам 9 тон мёду, па 15 і болей кг на адну пчаліную сям'ю, у фермера Паўла Рудзёнка збор мёду больш ў 3 разы.

**Паставы.** Прадпрыемства "Паставымэбля" асвоіла і пачала адгружаць школьную мэблю спецыяльна для школ Літвы, дагэтуль гэта прадукцыя ішла ў РФ, Казахстан і Латвію.

**Глыбокае.** Ля гарпасёлка Ушачы трагічна загінуў 23-гадовы жыхар Плісы, калі днём пры абгоне на яго аўтамабіль ВАЗ наляцеў на хуткасці на Фордзе пажылы 65-гадовы грамадзянін Расіі.

**Орша.** Па факце гібелі вечарам на будаўнічай пляцоўцы 7-гадовай дзяўчынкі, якую завалiла зямлёй у траншэі на глыбіні 2 метры, Следчы камітэт распачаў расследванне.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску Бігосова ў грузавым цягніку на Латвію мытнікі зноў пры праверцы знайшлі пад вугалём 60 каробак з кантрабанднымі беларускімі цыгарэтамі "Прэм'ер".

**Віцебск.** Былы палітвязень С. Каваленка, асуджаны на 2 гады за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга. Асуджаны выехаў у Польшчу, дзе і прадоўжыць вучобу ў адным з універсітэтаў.

**Чашнікі.** На падставе відэазапісу суд раёна пакараў буйным штрафам браканьера, хоць парушальнік паспеў утапіць у вадзе мяшок са здабытай рыбай і браканьерскімі сеткамі.

**Мёры.** Праверка выявіла ў раённым цэнтры небяспечныя для дзяцей гульнявыя пляцоўкі ў аварыйным стане на тэрыторыі 14 двароў, у іх альтанкі і арэлі могуць абваліцца.

**Ушачы.** На тэрыторыі аграгарадка Арэхаўна адбылося народнае свята калодзежа з асвячэннем гаючай крынічнай вады, тут ёсць вадаправод і яшчэ 22 калодзежы ў людзей.

**Бешанковічы.** З падтрымкай інвестара "Белгазпрамбанка" за 1,5 года на тэрыторыі раёна з'явіцца буйны турыстычны комплекс "Свечанка", Белгазпрамбанка" банк стане яго ўласнікам.

**Віцебск.** Вядомага крытыкай парадкаў у вобласці мясцовага ўрача Ігара Пастнова змясцілі з санкцыі пракуратуры на лячэнне ў псіхіятрычную лячэбніцу ў асобным пакоі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Італійскіх ваеннапалонных, недалёка ад Параф'янава, ля вёскі Ходараўка, вялі на расстрэл, але аднаму з іх пашанцавала збегчы. Праз 70 гадоў, у Венецыі, ён сустрэў маладога ксяндза Дзмітрыя Пухальскага – паходжаннем з параф'янаўскай парафіі…**

# Яго вялі на расстрэл, але лёс быў літасцівым...

**Уладзімір Скрабатун**

– Ёсць цікавая гісторыя,– тэлефануе Юрый Віктаравіч Паўловіч, жыхар вёскі Заборцы. – Шкада, але гэтай тэмай, наўрад ці зоймецца нашая докшыцкая раёнка. Думаю вам, Уладзімір Іванавіч, гэта будзе цікава.

І мы паехалі ў Заборцы. Па дарозе зрабілі цікавую экскурсію ў параф'янаўскі касцёл Імя Панны Марыі.

– У мяне ў суседстве – праз чатыры дамы – Пухальскія,– кажа Юрый Віктаравіч. – Міраслаў жыве ў Мінску, працуе інжынерам. Яго сыў Дзмітрый скончыў вучобу, цяпер ён – малады ксёндз. Тадэвуш Кандрусевіч – архібіскуп-мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, абраў Дзмітрыя ў якасці свайго духоўнага сына.

Нягледзячы на гэтыя акалічнасці падтрымліваем сувязі, тэлефануем адзін аднаму, ды й спадарства Пухальскіх не забываецца аб Заборцах, прыязджае – тут іх бацькоўскі дом. А Дзіму я ведаю з самага дзяцінства. Таму і называю Дзімам, а не Дзмітрыем, хоць ён цяпер займае і досыць вялікую пасаду.

– Дзіма і сёння працягвае навучанне ў Венецыі (Італія). Там яму, акрамя вучобы, далі парафію, бо ў ёй – вельмі сталага ўзросту ксёндз – пад 87 гадоў. Дзіма ж валодае італійскай мовай. Вядзе службу. Зразумела, італійцы даведаліся, што ксёндз Дзмітрый Пухальскі – з Беларусі.

– Праз некаторы час да Дзмітрыя падыходзіць мясцовы парафіянін, вельмі паважанага ўзросту, 92 гады, і пытаецца:

***– Вы – з Беларусі?***

– Так.

***– Я хачу вам, беларусам, падзякаваць,–*** працягвае італіец. ***– Беларусы мне вельмі дапамаглі, ратавалі ад смерці.***

***– Было гэта паблізу Ходараўкі. Нас вялі на расстрэл. Аднак, мне пашанцавала збегчы. Дапамагло тое, што паблізу было жытнёвае поле. Я – пабег! А ў канваіраў – які выбар? Бегчы за мной? Дык гэтыя (італійскія ваеннапалонныя) – разбягуцца!***

– Зразумела, расстрэльная каманда, якая нібыта прыехала з Глыбокага, расстраляла палонных,– працягвае пераказ падзеяў Юрый Віктаравіч Паўловіч. – І на гэтым – супакоіліся. Збеглы італіец прыйшоў на адзін з хутароў, гаспадаром якога быў Францукевіч. Дачка ў яго была. Праўдападобна, гэты італіец на тым хутары і перахоўваўся.

– Потым усё аціхла. Невядома як, якім чынам, гэты італіец дабраўся да радзімы.

– Вось усе гэтыя акалічнасці і распавёў мне Міраслаў Пухальскі, бацька Дзімы, які нядаўна прыязджаў у Заборцы.

– Нас абодвух зацікавіла гэтая гісторыя. Гэта для нас усіх – важна, бо тут Італія і Беларусь звязаная! І мы задаем пытанне: "Як жа ж так, Дзіма! Хоць ты й малады, але чаму прапусціў усё гэта міма сваіх вушэй! Трэба ж было запытацца ў гэтага італійца: імя і прозвішча, якім чынам дабраўся да Італі, кім працаваў, сфатаграфаваць…"

– Я раіўся з нашым параф'янаўскім ксяндзом. Ён таксама – за! Трэба давесці гэтую справу да канца, знайсці таго італійца і ўсё распытаць. Ды й век яго – 92 гады!

– Мы ж тут, у Ходараўцы, крыж паставілі. Біскуп Блін прыязджаў. Запрашалі прадстаўнікоў італійскай амбасады з Мінска. Ксёндз дамаўляўся. Абяцалі, што нехта прыедзе на імшу: ці сам пасол альбо яшчэ нехта з амбасады. Але так ніхто і не прыехаў… Не хацелі прызнаваць, што тут пахаваныя італійцы? Лянівыя! Не захацелі ехаць!

***– Перапрашаю, што Вас перапыняю,–*** кажа аўтар гэтых радкоў. ***– Падобны выпадак быў і ў нас – у Глыбокім. Каля вёскі Станулі, як павярнуць на колішнюю пілараму, гадоў пятнаццаць таму, перапахавалі расстраляных італійскіх ваеннапалонных. Я, нават, эскіз гэтага помніка маляваў. Праўда, у мяне на эскізе было тры крыжы, а паставілі, чамусьці, два. Усё сведчыла аб тым – тут пахаваныя італійскія ваеннапалонныя, напрыклад – гузікі на шынялях, аповяды мясцовых жыхароў, якія былі сведкамі расстрэлу. І зноў італійская амбасада запрашэнне глыбоцкіх уладаў праігнаравала.***

– Дык восьъ,– працягвае Юрый Віктаравіч,– мы сказалі Дзіму: "Ты там усё хуценька разведай, прыцягні для пошукаў мясцовых парафіянаў. Чалавек жа – стары, 92 гады, усё можа быць: і хвароба і смерць.

– Ужо быў такі момант,– па словах Дзімы, – згаданы італіец перастаў наведваць касцёл. Тамтэйшы ксёндз кажа Дзіму: "Напэўна, твой знаёмы ўжо памёр?"

– А ў Італіі, як ёсць? Веруючы ты, альбо не – усе запісы ідуць праз касцёл.

– Дзмітрый спраўдзіў запісы. Памёр чалавек 1926 года нараджэння. Не той! Але ж гэты – 92-гадовы італіец – усё ж так і не прыходзіць.

– Я ўсё ж – вучуся, вяду службу ў касцёле, не хапае часу давесці справу да канца,– кажа нам Дзіма. Прыцягнуць да пошукаў італійцаў? Дык гэта ж – не беларусы! У нас як? Мы цікавімся лёсам блізкіх нам людзей, цікавімся лёсам суседскіх дзяцей, знаёмых: ці выйша замуж (жаніўся), ці скончыў (ла) інстытут, дзе працуе, дзе жыве? Хваліемся за іншых. А італійцы – самі ў сабе замкнёныя. Яны не будуць думаць пра суседзяў, знаёмых, а толькі аб саміх сябе.

– ***Цікава: чым займаліся палонныя італійскія жаўнеры ў ваколіцах Параф'янава?*** – пытаюся ў спадара Юрыя.

– Будавалі вузкакалейку ад станцыі Параф'янаў да станцыі Лепель. Быў час, калі немцы знялі італійцаў з забеспячэння, гэта значыць не кармілі. Італійцы паміралі з голаду. Дык некаторыя немцы былі злітаваліся – вадзілі па вёсках і прасілі даць ім паесці.

– Чакайце, я зараз патэлефаную Мірасю ў Мінск, запытаюся: ці паехаў Дзіма ізноў у Венецыю?

– Кажа Мірась, што Дзіма ўжо ўчора з'ехаў з Мінска ў Венецыю...

***

Будзем спадзявацца, што гісторыя – усё ж яшчэ знойдзе свой працяг.



**Апавядае Юрый Віктаравіч Паўловіч.**

Ю.В. Паўловіч адпрацаваў дзесяць гадоў старшынёй Сітцаўскага сельсавета, два гады намеснікам старшыні калгаса, год інструктарам райвыканкама, тры гады дырэктарам нарыхтоўкі збожжа, а потым старшынёй прафсаюзнага камітэту.



**Мемарыял ва ўрочышчы Ходараўка. На помніку – лічба 800, колькасць расстраляных акупантамі. Сярод іх – прыкладна 200 італійскіх ваеннапалонных.** *Фота Кастуся Шыталя.*

**В.Е. Катовіч,**
*дзяржпўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету.*

# Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, вельмі часта пішуцца крывёй саміх паляўнічых

**З прыходам восені настае актыўная пара адкрыцця палявання на розныя віды паляўнічых жывёл. У сувязі з чым Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету лічыць неабходным нагадаць некаторыя тэрміны адкрыцця палявання, а таксама неабходнасць выканання правіл тэхнікі бяспекі на паляванні, наяўнасці дазваленчых дакументаў.**

Як кажуць у народзе, нават стрэльба, якая вісіць на сцяне не зараджаная, адзін раз на год страляе, а таму самае галоўнае для чалавека са стрэльбай павінна быць выкананне мер бяспекі са зброяй пры ажыццяўленні палявання, пераездзе да месца палявання, абыходжанне і з ёй. Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, вельмі часта пішуцца крывёй саміх паляўнічых. Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў іншае не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правіл палявання, можа прывесці да трагедыі, вінаватыя нясуць адміністрацыйную або крымінальную адказнасць. Пры перасячэнні розных перашкод, ручаёў, каналаў, ветраломаў і г.д. зброя заўсёды павінна быць разраджаная, пры сустрэчы паляўнічага са службовымі асобамі органаў дзяржаўнага паляўнічага кантролю, органаў унутраных спраў, іншымі паляўнічымі або грамадзянамі – зброя таксама павінна быць разраджаная. Наяўнасць дазваленчых дакументаў на захоўванне і нашэнне зброі, паляўнічай пуцёўкі і іншых дакументаў – **абавязковае**, уплата дзяржаўнай мыты на права палявання – **абавязковая.**

Так, 30 жніўня 2013 года інспектарамі міжрайінспекцыі ў лясным масіве паблізу в. Малыя Давыдкі Глыбоцкага раёна затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін Н., які ажыццяўляў незаконнае паляванне без наяўнасці паляўнічай пуцёўкі і дакументаў на права нашэння і захоўвання агнястрэльнай зброі. Парушальнік прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, зброя канфіскаваная.

З 1 верасня па 31 студзеня ў светлы час сутак дазволена стрэльбавае і безружжовае паляванне з паляўнічымі сабакамі, з падыходу, з засады, на бабра рачнога, выдру рачную. На паляванні можна выкарыстоўваць наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўляў і гладкаствольная паляўнічая зброя з выкарыстаннем кулявых патронаў і патронаў, падрыхтаваных дробам дыяметрам 5 мм і больш, пасткі, капканы №5-7, паляўнічыя сабакі.

З 1 па 30 верасня дазволена стрэльбавае паляванне на лася, аленя высакароднага, плямістага і лань еўрапейскую з засады, з падыходу, з падманьваннем (на вабу).

Да 30 верасня працягваецца стрэльбавае паляванне з засады, з падыходу паляванне на кабана, з 18-00 да 9-00 гадзін.

З 1 кастрычніка па 30 снежня адкрываецца восеньскае - зімовае паляванне стрэльбавым загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, кабана, казулю еўрапейскую.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня дазваляецца паляванне на зайца-беляка, зайца-русака стрэльбавым спосабам з паляўнічымі сабакамі.

З 1 кастрычніка па 31 студзеня ў светлы час сутак дазваляецца здабыча андатры стрэльбавым спосабам.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня дазваляецца здабыча куніцы лясной, каменнай, тхара лясного, норкі амерыканскай, гарнастая, вавёркі. ***(У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова).***

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі перакананча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць мімавольным іх парушальнікам.

Пра ўсе правапарушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 – кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.

Мінаюць нашы вёсны і зімы,
але ў душы мы маладыя.
( да юбілею СШ№2)

# Сустрэча школьных сяброў



■ Людміла Ардынская,
в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н

## 1. "Чырвоная школа", яе настаўнікі і выхаванцы.

На пачатку жніўня, у цёплы сонечны дзень, які не псаваў нават кароткачасовы, часты, як з рэшата, дожджык, мы збіраліся на плошчы 17 Верасня ля фантана. Мы – гэта выпускнікі 11а класа 1965 года Глыбоцкай СШ №2, цяпер ужо сталыя людзі з багатым жыццёвым вопытам і загартоўкай.

Машына хутка імчала мяне па шашы Шаркоўшчына-Глыбокае. Вось і Мярэцкія. Кінуліся ў вочы пастаўленыя каля дарогі насупраць хат кошыкі з шыкоўнымі яблыкамі гатунку "белы наліў", вядзерцы з алычой, слівамі, бульбай – дарункамі шчодрага жніўня. А думкі былі накіраваны на сустрэчу. Хвалявалася: амаль усіх не бачыла многа гадоў, іншых – з выпускнога балю. Якія яны, мае сябры-таварышы, з кім не проста пройдзена адзінаццаць класаў, а пражыты самыя цудоўныя і светлыя гады дзяцінства і юнацтва? Запомніліся на ўсё жыццё, як на фотаздымку ў скверы каля помніка Леніну разам з класнай кіраўніцай Наталляй Усцінаўнай Пястун у дзень выпуску: юныя, прыгожыя, узнёслыя, акрылёныя, поўныя мараў і веры ў сябе і свае сілы дзеля іх здзяйснення. Назаўсёды засталася ў памяці наша старая "чырвоная" (з чырвонай цэглы)школа, рускамоўная. Супрацьлеглай ёй, іншай па афарбоўцы (белага колеру, атынкаваная), і па моўнасці беларуская была СШ№1, былая гімназія пры Польшчы.

Szkola powszechna №1 – так называлася наша "чырвоная" школа за польскім часам. Яе ўжо няма той школы, дзе мы ўпершыню па складах прачыталі слова Ра-дзі-ма, і тых высокіх шумлівых таполяў, што сустракалі нас штогод у верасні. Яна яшчэ доўга стаяла пасля таго, як мы перайшлі ў новы будынак СШ№2 па вуліцы Вольнай у 1964 годзе. Вось і юбілей набліжаецца, пяцьдзясят год. А нашы два адзінаццатыя класы былі першым выпускам, светлыя класы, абсталяваныя кабінеты, вялікія спартыўная і актавая залы, цудоўны стадыён – усе ўмовы для навучання і адпачынку. Але больш хвалююць сэрца ўспаміны аб старой "чырвонай" школе.

Аднапавярховая, з частковым надбудаваным другім паверхам пасярэдзіне, вузкім калідорам і рознымі па велічыні класамі. Яна не змяшчала ўсіх вучняў, таму займаліся ў дзве змены. Маленькі фізкабінет, ён жа і хімічны, невялікі спортзал, ён жа і актавы. У невялікі пакойчык, дзе змяшчалася бібліятэка, на перапынку ўдавалася ледзь уціснуцца. Насупраць – буфет з заўсёды чэрствымі пончыкамі за пяць капеек. Тут побач каля сценкі – бачок на табурэтцы з пітной вадой і агульным кубкам і месца бабулькі-тэхнічкі. Яна давала званок на ўрок (трэсла ў руках званочак) і разводзіла чарніла ў вядры, якое мы разлівалі ў чарніліцы. Шарыкавыя ручкі, спачатку аўтаручкі, з'явяцца значна пазней. Ацяпленне было пячное, іншы раз настаўнікі дазвалялі нам накідваць паліто, калі ў марозныя зімы ў класах было холадна. Іншы раз чамусьці адключалася электрычнае святло. На гэты выпадак было прадугледжана карыстанне газавымі лямпамі.

Канец пяцідзясятых гадоў, пачатак шасцідзясятых мінулага стагоддзя характарызаваўся яшчэ нестабільным эканамічным становішчам краіны. Не толькі шматдзетныя сем'і, а яны не былі ў той час у меншасці, жылі менш, чым сціпла. Быў бы хлеб на стале. Гэта цяпер у школах двухразавае харчаванне, а нам у пятым класе, здаецца, пачалі гатаваць толькі чай. Дзяжурныя прыносілі ў шклянках на падносах, вось такая была падтрымка.

Вучыцца мы любілі, многа чыталі, былі вельмі актыўныя, удзельнічалі ва ўсіх мерапрыемствах, лезлі ў кожную дзюрку, куды трэба і куды не трэба. Больш часу прападалі ў школе, у сяброў, чым знаходзіліся дома. Часта хадзілі ў кінатэатр на прагляды мастацкіх фільмаў, нават усёй школай. На іх выхоўвалася пачуццё патрыятызму, высокія маральныя якасці чалавека. Мы былі дзецьмі свайго часу.

Школа была нашым другім домам, а школьная сям'я – другой сям'ёй, дзе мы шукалі ўвагі, разумення праяўлення сваіх здольнасцяў і захапленняў, дабрыні. Нашы бацькі шмат працавалі і не былі, мабыць, такія дасведчаныя ў выхаванні, як сучасная моладзь. Захаваліся самыя светлыя ўспаміны аб нашых настаўніках: першай настаўніцы Атрахімовіч Т.І., класнай кіраўніцы і настаўніцы рускай мовы і літаратуры Жыгач Е.Ф., настаўніку матэматыкі Свірко П.М., завучу Свірко Р.Д., класнай кіраўніцы і настаўніцы рускай мовы і літаратуры Пястун Н.У., настаўніках Цітовай В.К., Сорыну Я.М., Лагун Т.М., Леднік Л.М. Яны, на жаль, ужо пайшлі з жыцця. Здароя і доўгіх гадоў жыцця зычым настаўніку нямецкай мовы Скобаву А.М. Яны захавалі вернасць любімай справе, знаходзілі да кожнага вучня асобны шлях, давалі трывалыя веды і аддавалі нам часцінку сваёй душы і цеплыню сэрца.

На сустрэчу прыйшла амаль палова выпуску, у большасці – глыбачане. Шасцёра хлопцаў пайшлі з жыцця, у некаторых іншагародніх была ўважлівая прычына для адсутнасці. Вядома, былі сяброўскія абдымкі, пацалункі і вялікая радасць ад сустрэчы. Фатаграфаваліся каля фантана, ля помніка-сімвала кнізе, наведалі Алею Славы, пастаялі з рознакаляровымі парасончыкамі, як у юнацтве, пад ніцай вярбой. Зразумела, пасядзелі за святочным сталом у доме гасціннай нашай гаспадыні і аднакласніцы Антаніны Петрачэнка. Дом яе бацькоў паважаных спадароў Сямёнавых быў гасцінным для нас усе школьныя гады. Успаміны, пытанні, аповеды пра жыццё. Размаўлялі доўга, шчыра і адкрыта, як родныя. Толькі і чулася: "А памятаеш?", "Успомні, як…", "Вы не забыліся..?"

Разыходзіліся позна ўвечары, на заходзе дня. Развіталіся, і было крыху сумна: ці сустрэнемся зноў? На вуліцах роднага горада запальваліся агні, якія заўсёды свяцілі нам здалёк, калі мы вярталіся дадому з далёкіх дарог.

## 2. Жыццёвыя шляхі-дарогі.

Цудоўная пара юнацтва! Вучыліся, марылі, праяўлялі свае здольнасці, таленты, захапленні. Ніхто не ведаў, якія выпрабаванні лёсу яго чакаюць, што не заўсёды роўнымі будуць шляхі-дарогі і абавязкова сустрэнуцца каляіны і выбоіны. Тым не менш, хацелася прыспешыць школьныя гады, хутчэй пачаць самастойнае жыццё, пераадольваць цяжкасці, нешта значнае здзяйсняць. Гэтыя імкненні абумоўлівай час першага палёту чалавека ў космас, будаўніцтва новых гарадоў і магутных высокавольтных ЛЭП у тайзе, плацін ГЭС на сібірскіх рэках. Падзеі часу адлюстроўваліся ў вершах, песнях, празаічных творах, якія значна ўплывалі на фарміраванне ідэалогіі маладога пакалення:

***Мы учились в суровые дни***
***Песней зажигать костры.*** (Словы з песні)

Да Сібіры справа не дайшла. Мае школьныя сябры, атрымаўшы вышэйшую, сярэднюю спецыяльную, проста сярэднюю адукацыю працавалі ў Беларусі. Асобны паклон тым, хто застаўся ў родным горадзе і зрабіў важкі ўнёсак у эканамічнае, сацыяльнае, культурнае развіццё горада, у навучанне і выхаванне маладога пакалення глыбачан.

Больш трыццаці гадоў выкладала фізіку і вяла метадычную работу ў Глыбоцкім прафтэхліцэі Петрачэнка А.Ц. (Сямёнава), выдатны педагог, чалавек вялікай душы і добрага сэрца. "Кавала", як кажуць, механізатарскія кадры для сяла.

Дзеравенскі М.Г., староста класа, адзін з лепшых матэматыкаў школы, залаты медаліст, скончыў БДУ і працаваў настаўнікам у роднай школе, потым у камп'ютарным аддзеле Дзяржбанка.

Дзеравенская В.І. (Гламаздзіна) скончыла пединстытут імя Машэрава ў Віцебску, працавала выхавальніцай і метадыстам дзіцячага сада.

Цяжка сказаць, колькі юных глыбачан прайшло праз пяшчотныя, як у маці, рукі Кірэй В.М. Спачатку выхавальніца, потым метадыст і загадчыца аднаго з дзіцячых садоў г. Глыбокае, яна захавала ўлюбёнасць у справу дашкольнага выхавання на ўсе гады.

Атрымалі вышэйшую адукацыю і таксама займался гэтай справай Карчагіна А. (Шаўчэнка) і Майсяёнак В.М. Цеплыню свайго сэрца наша маленькая, але заўсёды жыццярадасная Аня Шаўчэнка аддавала дзеткам, якія засталіся без бацькоў, спачатку ў дзетдоме Русакі, потым у Наваполацку. На ахове правапарадку стаяла Кухарэнка В.І. (Корачкіна), працавала юрыстам. Гушчонак Т.А. (Лаўрыновіч) знайшла сябе ў гандлі, працавала ў райспажыўсаюзе, узначальвала аптова-гандлёвую базу.

Зяваліч А. працаваў слесарам, а потым механікам у Глыбоцкім аўтапарку і быў добрым спецыялістам. Мінскі радыётэхнічны інстытут скончылі Рыжычэнка В. і Свечнікава В.Г. (Гуліч).

Урачамі сталі Вінель У. (ваенурач) і Тарыкаў В. (працаваў галоўным урачом Глыбоцкага дома-інтэрната для састарэлых).

На розных прамысловых прадпрыемствах горада працавалі Гупала А.Л. (Тарыкава), Жынь М. ( Пяткевіч), Буйневіч Л. (Золатава), Сарычаў В.

У абласным савецкім і партыйным апараце працаваў Дробат Ю., узначальваў і каардынаваў працу штаба студэнцкіх будатрадаў.

Заканчэнне на стар.6



**На сяброўскай сустрэчы. 1970 г. У першым шэрагу (злева – направа): Марына Пяткевіч, класны кіраўнік Наталля Усцінаўна Пястун, Валянціна Альхімёнак, Людміла Шарпенка. У другім шэрагу: Міхаіл Дзеравенскі, Віталь Сарычаў, Уладзімір Вінель, Вячаслаў Рыжычэнка, Валерый Тарыкаў, Георгій Свечнікаў.**




**«Чырвоная школа» на паштоўцы 1930-х гг.**

